Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 23. Вільня, Субота 31 Ліпня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ

## Не памыліліся...

*„Беларуская Крыніца“ у № 24 падае стацьцю пад гэтым загалоўкам. З увагі на яе цікаўнасьць і актуальнасьць—зьмяшчаем цалком.*

Калі стаўся ў Польшчы так званы „пераварот“ маёвы, некаторыя з беларусаў прабавалі, а некаторыя, як п. Паўлюкевіч, прабуюць і цяпер „ар'ентавацца“ на Я. Пілсудскага. Ім думалася і думаецца, што „дэмакрат“ Я. Пілсудскі сапраўды ад слоў возьмецца да чынаў, направіць нашы крыўды і польскі ўрад перастане зьдзекавацца над намі.

Аднак мы, добра ведаючы польскую „дэмакрацыю“ і яе галаву Я. Пілсудскага прасьцерагалі беларускае грамадзянства, каб яно ў сваіх адносінах да польскай дэмакрацыі было асьцярожнае.

Мы пісалі, што Пілсудскі да творчых чынаў наагул, асабліва-ж у адносінах да нас, няздольны і што польская дэмакрацыя перанятая шляхоцкім духам і поўная нацыяналізму шчыра насустрэч нашым слушным дамаганьням ня пойдзе і ня ў чым нам не дапоможа.

Ад маёвых падзеяў прайшло два месяцы часу, а польская дэмакрацыя нічагусенькі не зрабіла, каб хоць цьвёрдую надзею даць нам на палепшаньне проста жудаснага палажэньня нашага народу пад Польшчай.

У працягу двух месяцаў кіруючая дзяржавай дзяржаўная польская дэмакрацыя ў адносінах да нас маўчала, як вады ў губу набраўшы. Маўчала і... арганізавала п. Паўлюкевічу зьезд, каб нічога ня даўшы беларускаму народу, пры помачы самых-жа беларусаў, калі будзе патрэба, маглі заявіць, што беларусам у Польшчы жывецца добра і што беларусы з усяго здаволены.

Нарэшце прыйшоў час, калі „дэмакратычны“ польскі ўрад аб сваей палітыцы наагул, а так-жа і да нас мусіў заявіць публічна. 19-га ліпня г. г. старшыня мін. Бартэль аб сваіх плянах прамовіў ў Сойме.

А прамовіў галава сучаснага ўраду так, як прамаўлялі ўрады папярэднія.

Агулам прэм'ер Бартэль сказаў, што ў Польшчы ўсё добра, а дзе ня добра, дык ён так зробіць, што будзе добра. Аб цэлых масах безработных як па мястох, так і па сёлах, а так-жа і аб самаволі адміністрацыі і паліцыі прэм'ер чамусьці забыўся.

А што датычыць беларусаў, украінцаў і літоўцаў, дык прэм'ер Бартэль нават і не заікнуўся. Успомніў толькі аб жыдох, спадзяючыся, відаць, дастаць ад іх грашовую паэыку.

Праўда, старшыня міністраў гаварыў сёе-тое, што, як можна самым дагадацца, мае адносіцца да нас.

Аб школе сказаў, што языковыя законы будуць зрэвідаваны і што будзе выдана новая інструкцыя, як дабівацца школы. Але што гэта будзе за рэвізія і што за інструкцыя—ня ведама. Судзячы з агульнай да нас палітыкі ўраду п. Бартля, надта магчыма, што і гэная рэвізія і гэная новая інструкцыя будуць якраз на нашу некарысьць. Што ў гэтай справе думае ўрад, старшыня яго меў павіннасьць сказаць нам. А раз не сказаў, знача крые нейкія варожыя да нас пляны.

Успомніў п. Бартэль і аб амнэстыі для вязьняў, але ўспомніў так, як і аб школе. Ён заявіў, што тыя палітычныя вязьні, якія зрабілі праступак да 1-га красавіка (апрэля) 1926 г, ад кары могуць быць зволынены. Гэта знача, што закону аб амнэстыі ня будзе, а што звольняць таго, каго звольніць захоча ўрад. Знача, і тут нешта не такое, як у людзей і тут нешта, што для беларускіх палітычных вязьняў не варожыць нічога добрага.

Такім-жа цьмяным языком гаварыў пан Бартэль і аб нейкім зраўнаньні ўсіх грамадзян. Можна думаць, што гаворачы гэта, меў ён на ўвазе дапусьціць на дзяржаўную службу беларусаў, зраўняць усюды беларускую мову з польскай і г. д. Але няма на гэта ніякіх довадаў. Наадварот, мы маем довады, што такое „зраўнаньне“ сьмерці для нас падобна.

Браты Грабскія, а за імі ўся эндэцыя заўсёды казалі, і кажуць, што калі, дапусьцім, беларусам даць беларускую школу, дык гэта для беларусаў будзе асаблівая ласка, прывілей, а каб была роўнасьць, дык беларусоў трэба заганяць у польскія школы і спольшчыць іх. Дзе-ж довады на тое, што п. Бартэль, калі гаворыць аб нейкім зраўнаньні грамадзян у Польшчы, дык думаў аб іншым зраўнаньні, чым думаюць і гавораць эндэкі? Довадаў на гэта няма.

Але былі рэчы ў прамове п. Бартля адносна нас і аж надта выразныя: гэта—асадніцтва. П. Бартэль сказаў выразна, што асадніцтва ён будзе падтрымліваць, даючы яму крэдыты і агулам апякуючыся ім. Аб рэформе рольнай, аб падзеле зямлі між мясцовым сялянствам у мове прэм'ера не знаходзім ані слова. З гэтага відаць, што ўрад зложаны з людзей Пілсудскага, на нашых землях будзе далей праводзіць чужацкае асадніцтва.

Словам, у нашым паглядзе на польскую дэмакрацыю мы не памыліліся, а знача ня мыляемся, калі заўсёды кажам, што патрэба нам больш арганізацыі, больш ар'ентацыі на ўласныя сілы і больш дружбы з незаборчымі суседзямі.

---

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаўшы дай яе суседу.

---

## Мімалётнае...

Вось не'к—няўцям—ачараваў
Мяне твайго пагляду жар,
І Твайго цела знойны пах,
І грэх, што сьпіць ў Тваіх вуснах.
І стан Твой спадабаўся гібкі,
І ход Твой—лёгкі, вабны, зыбкі,
Вагульлі цэльны Твой сыльвэт
Прыгожы, стройны як сонэт...
Але боль сэрца разьдзірае,
Бо розум ясна уяўляе,
Што, аднак, Ты—мая краса,
Не для мяне і не мая!...
Я ведаю ўжо заранье,
Што мімалётнае спатканьне
Не патрывае на'т і дней,
Што праляціць яно хутчэй
Чым бліскавак у начы зяньня,
Чым дня васеньняга зьмярканьне.
І вось ціхонька, неўзначай,
Надыйдзе сумнае: бывай!
А мо' на'т і яго ня будзе
У жыцьці бурлівым перагудзе...
Як два лісточкі у разводзьдзе
Нурт разганяе у прыродзе,
Так Лёс праклёнлы ў бегу дней
Раскіне нас што раз далей...
І вось пяройдзе дзён нямнога,
Забудзем мы адзін аднога
І наша шчыра пачуцьцё
Праглыне вечнасьць... забыцьцё...
Рад доўгі шэрых, нудных дней,
Асоб рад новых і падзей,
Заб'е ў душы ўспамін спатканьня
І нечаканага каханьня...
Аж-но урэшце ў бегу дзён
Дзесь загудзіць хаўтурны звон...
. . . . . . . . . . . . . . .
Патонем мы ў бяздоньнях Леты...
Так дзьве сыгнальныя ракеты,
Спаткаўшысь, неба ўздоўж пратнуць
І у бязмежжы патануць!...

*Я. Сьветазар.*

---

## З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

### Да ведама вучыцялёў.

Вучыцялі, якія на аснове абвесткі ў «Сялянскай Ніве» зарэгістраваліся ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, і якія хацелі-б працаваць у прыватнай беларускай школе (да часу залічэньня на дзяржаўную службу), павінны прыслаць у Віленскі Аддзел Інстытуту даныя абвешчаныя ў № 20 «Сял. Нівы» пад загалоўкам: «Беларусы, аткрывайце свае прыватныя беларускія школы», а таксама паклапаціцца аткрыць Гурток Інстытуту ў сваей вёсцы, прысылаючы адпаведную заяву, згодна з інструкцыяй паданай ў газэтах.

# ПРАМОВА

**пасла Рагулі ў Сойме 21.VII. 1926 г. пры дыскусыі над паўнамоцтвамі для ўраду.**

Высокая Палата!

З вялікім зацікаўленьнем чакалі мы, прадстаўнікі беларускага народу, праграмнай прамовы пана прэм'ера Бартэля, асабліва дзеля таго, што ўрад п. Бартэля зьяўляецца ўрадам т. зв. маральнага адраджэньня. (Голас: слушна). Маглі мы спадзявацца, што гэта маральнае адраджэньне пазытыўна адаб'ецца на лёсах беларускага народу ў Польшчы. Я асабіста ніякімі надзеямі сябе ня цешыў, бо веру толькі дзелу, а ня словам. Дзела-ж дзяржаўных органаў на т. зв. Усходніх Крэсах даказвуюць, што для беларусаў Польшча зьяўляецца ні менш ні больш турмой і то найгоршай, якую можна найсьці ў цэлай Эўропе. Магу рашуча сказаць, што прамова п. прэм'ера ня прынясе расчараваньня толькі тым беларусам, якіх правамыснасьць купляецца за грошы, як напр. для недайшоўшага дохтара Паўлюкевіча.

У скароце прамова п. Бартэля ў адносінах да беларусаў, украінцаў і ліцьвіноў выглядае так: „як было, так і будзе" (Голас: можа быць горш). Магу спадзявацца, што можа быць горш, але ня лепей. Каб даказаць, што гэта так, а ня інакш, мушу зрабіць экскурсыю ў недалёкую прошласьць.

Што-ж казалі прэм'еры папярэдніх урадаў? П. ген. Сікорскі рабіў перад беларусамі рэвэрансы, кажучы, што дасьць школы, што будзе ўсё. З гэтага ня было нічога. (Голас: будзе). П. Вітас казаў, што ўсе справядлівыя дамаганьні народных меншасьцяў будуць споўнены. (Голас: іменна справядлівыя) Так, а за ўраду п. Вітаса, якія патрэбы былі ўзяты пад увагу? Усіх беларусаў, якія дамагаліся свайго, пасаджана ў турму.

П. Скшынскі ў Жэнэве хваліўся, што выдаець языковыя ўставы, што беларусы, украінцы, ліцьвіны і іншыя меншасьці атрымовываюць свае школы. (Голас: маюць-жа!). А запраўды зачыняны ўсе беларускія школы. Такім чынам словы п.п. прэм'ераў заўсёды разыходзіліся з іх дзеламі. П. Грабскі не казаў нічога. Тады йшло гаспадарчае вздараўленьне і аб народных меншасьцях ня было часу гаварыць. Не хацеў гаварыць і даваў бізуны, (Голас на правіцы: хацеў даваць) лепшыя бізуны як п. маршалак Пілсудскі даваў польскай правіцы. Усе турмы напоўніліся беларусамі, украінцамі і ліцьвінамі. Гэтулькі мы ўдзячны п. Грабскаму. Цяпер вось глянім, што сказаў п. прэм'ер Бартэль, ці сказаў нешта лепшае ад даўнейшых прэм'ераў, ці можа штось лепшае абяцаў беларусам? Вось я прачытаю, што абяцаў:

„Урад будзе імкнуцца да лучнасьці з люднасьцяй праз напраўу адміністрацыі і самаўрадаў, паменшаньня нацыянальных і рэлігійных сварак, творачы варункі згоднага сужыцьця. Жыцьцёвыя інтарэсы меншасьцяў мусяць быць здаволены".

Прашу паноў зьвярнуць увагу, якая ёсьць малая рожніца між праграмнай прамовай п. Вітаса а п. Бартэля. П. Вітас сказаў: справядлівыя дамаганьні будуць здаволены. Урад рашуча працівіцца ўсялякай процідзяржаўнай дзейнасьці. (Голас: вельмі слушна). Справу палітычных праступкаў дакананых перад 1-м красавіка 1923 г., хоча зьліквідаваць праз скасаваньне пракуратоpcкіх прапазыцыяў у межах права, а так-жа дараваньне віны асобным адзінкам. Правядзеньне Канстытуцыі, а так-жа трактатаў, хуткае вырашэньне справы дзяржаўнай прыналежнасьці, прысьпяшэньне зямельнай рэформы, комасацыі, рэгуляцыі сэрвітутаў—гэта ўсё заданьні, якія ўрад хоча правясьці. Урад лічыць за справу пільную статут праваслаўнай царквы, рэвізыю школьнай уставы і сыстэму падаваньня дэкляpaцыяў.

Вось, панове, мусім прааналізаваць гэтыя абяцанкі, якія мы чулі ад п. прэм'ера Бартэля.

Урад мае йсьці па дарозе памяншэньня нацыянальных і рэлігійных сварак; аднак я гэтага ня віджу, бо ні менш ні больш, як учора прыехаў адзін сьвяшчэннік і кажа, што ўрад адбірае ад царквы будынкі і аддаець іх каталіцкаму касьцёлу. (Голас: так трэба). Так быць не павінна, бо сьцьвярджаю, што гэтыя будынкі збудавалі праваслаўныя сваім мазольным, крывавым трудом. Гэта ня права, а гвалт.

Імкненьні нашыя вядомы, ня буду іх тут паўтараць. Вы, паны, дасканальна ведаеце да чаго імкнемся і чаго дамагаемся ад польскага ўраду, аднак п. прэм'ер ня быў ласкаў сказаць у які спосаб гэты імкненьні будуць здаволены. Магчыма, што будуць здаволены так, як гэта было за часоў ураду Грабскага, калі былі выданы вядомыя языковыя ўставы, каб люднасьць падавала дэкляpaцыі толькі дзеля таго, каб ваявода Янушайціс усіх хто прымаў учасьце ў падаваньні гэтых дэкляpaцыяў цягнуў да адказнасьці з арт. 102 К. К. як замахоўцаў. Яны дагэтуль сядзяць у турме. Аб вінавачэньне проціў іх было збудавана на падставе паказаньняў сышчыкаў.

Далей маю на мысьлі цікаўную рэч, а іменна т. зв. амністыю. Пан прэм'ер Бартэль обяцаў амністыю ў справе палітычных праступкаў, дакананых перад 1 красавіка 1923 г. Каго п. прэм'ер будзе звальняць? Мы добра ведаем, што ўжо ў 1923 г. была выдана праз Сойм устава аб амністыі і на падставе гэтай уставы, тыя, каторыя пад амністыю падходзілі, ужо яе атрымамі. Ня ведаю каму цяпер будзе давацца амністыя. Гэта толькі пусты гук, гэта толькі фраза, а не амністыя. І гэта яшчэ на прапазыцыю пракуратараў, якія апіраюць прапазыцыі на ўказках старажоў турмы Такім чынам, пад амністыю падойдуць тыя вязьні, якія пашлі па дарозе правакацыі, па дарозе лякайства ў адносінах да вастрожных уладаў. Гэтыя атрымаюць. Затое камуністы, наколькі гэта праўда што я чуў, амністыі не дачакаюць. І нас-жа, як панам вядома, усіх беларусаў трактуюць як камуністых. Такім чынам амністыя да нас аднасіцца ня будзе.

Далей яшчэ цікаўнешая рэч. Гаворачы аб правядзеньні Канстытуцыі і трактатаў, цікаўна зьвярнуць увагу на словы, дзе п. прэм'ер мае адвагу казаць (і за гэту адвагу я яму вельмі ўдзячны), што ў Польшчы дагэтуль *Канстытуцыя да народных меншасьцяў не аднасілася.* Гэта так. Калі-б было інакш, то аб правядзеньні Канстытуцыі ў жыцьцё ня трэба былоб гаварыць. Такім чынам зьяўляецца праўдай, аб чым мы заўсёды казалі, што беларусы, украінцы, ліцьвіны і іншыя меншасьці лічацца грамадзянамі ня тэй самай рангі як палякі. Яны ўважаюцца за грамадзян трэцяй, чацьвертай, а можа і сотай рангі. Так на меншасьці глядзелі дагэтуляшнія ўрады. (Голас: што Вы кажаце, маюць такія самыя правы). Чаму-ж п. Бартэль не сказаў, што і да палякаў будзе тасавацца Канстытуцыя? (Голас: для палякаў ёсьць бізун, а вас трэба купіць). Толькі Паўлюкевічаў можна купіць, але Рагуля і іншыя не прадаюцца. Вазьміце гэта сабе добра да ведама!

Пан прэм'ер Бартэль казаў аб камасацыі і рэгуляцыі грунтаў. Тут я магу запытаць пана прэм'ера, што ён будзе камасаваць на „Крэсах Усходніх"? Гэта-ж уставай аб вайсковым асадніцтве скамасавалі ўсё, што можна было! Што будзе камасаваць? Ці сялянскі шнюрок шырыні як гэта сьцежка між крэсламі. Якая-ж тут камасацыя, калі селянін мае паўтара дзесяціны, а можа і менш? Калі хочыце камасацыі—распарцэлюйце ўсе двары і то бяз ніякага выкупу; трэба выгнаць асаднікаў і тады пачаць камасацыю. (Шум на правіцы і ў цэнтры). Маршалак: Выбачайце на мінутку. Хацеў я падаць да ведама Палаты, што п. Рагуля ў свай прамове ў адным мейсцы прызываў да фізычнага гвалту. Дзеля таго, што не заўсёды магу дакладна прасьледжываць прамовы, згодна з звычаем, загадываю выкасаваць гэта мейсца са стэнаграмы. (Скшына: А як фізычнага гвалту даканаў п. Пілсудскі, пане маршалку?) Маршалак: Не казаў аб гэтым з соймавай трыбуны.

Далей п. прэм'ер абяцаў рэвізыю школьнай уставы. Маем мы дасьведчаньне з прошласьці з гэтых рожных рэвізіяў: кожная такая рэвізыя выходзіць бокам беларусам, украінцам і ліцьвінам. Як толькі ўрад рэвідуе—схавайся лепш куды, бо ад гэтай рэвізіі будзе табе яшчэ горш. І думаю, што п. прэм'ер Бартэль павінен быў сказаць: будзе зроблена тое і тое, што заместа гэтай уставы будзе такая і такая, будзе выданы такі-то і такі загад. Гэта я разумею. Але што такое значыць рэвізія школьнай уставы? Гэта можна разумець так, што цяпер за пасьведчаньне дэкляpaцыі трэба будзе плаціць войту ня 2 злоты, але што можа трэба будзе ехаць да п. Бартэля і прасіць пасьведчаньня, або можа да прэзэса Акружнога Суда, ці Міністра Унутраных Спраў. Ня ведаю якая гэта мае быць рэвізія і ці яна так-жа мае адносіцца сыстэмы падаваньня дэкляpaцыяў. Я зусім не захоплены прамовай п. Бартэля. (Голас на правіцы: Даўно гэта было, калі Вы езьдзілі ў Менск?) Езьдзіў, дык што-ж з таго? Быў у Менску, нават там жыў і працаваў. Можаце і Вы паехаць, я не памашаю.

Не пачулі мы нічога ад п. Бартэля ў такой балючай для нас справе як суды. П. прэм'ер не хацеў нам сказаць аб тым, што на „Усходніх Крэсах" будуць заведзены суды прысяжных. Мы гэтага ня маем. Вы, панове, добра ведаеце, што ў нас судзьдзі пераважна абшарнікі, якія ненавідзяць нашага сялянства. Суд гэты, каб ён быў нават беларускі, то, я-бы сказаў, што ён не падходзіць да сучаснага мамэнту і не адказвае імкненьням XX стагодзьдзя. (Голас: Чэрэзвычайка больш падходзіць). Палявыя суды існуюць і напэўна астануцца. А як там разглядаюцца справы? Было гэта, праўда, не за часоў п. Бартэля, а за часоў папярэдняга ўраду. Вось такі абшарнік Пузыновскі літэральна задушыў селяніна ў лесі. І вось затое, што гэты Пузыновскі меў быць зяцем тадышняга прэзэса Акружнага Суда ў Навагрaдку п. Бохвіца, дык па немагчымасьці апраўдаць, засуджана Пузыновскага на некалькі месяцаў турмы, ды кару на працяг двух гадоў устрымалі. Вось як дзеіцца ў крэсовых судах. Апрача таго на становішчах судзьдзяў лепш хацеў-бы відзець палякаў, чымся гэтых расейскіх рэнэгатаў, якія мяняюць праваслаўе на каталіцызм, засядаюць у палявых судох і высылаюць на той сьвет лепшых сыноў Беларусі.

Цяпер скажу аб зьявішчах ужо за часоў урадаваньня п. Бартэля. Магчыма, што п. Бартэль аб гэтым ня ведае, дык няхай-жа даведаецца.

За нядаўных часоў на т. зв. Усходніх Крэсах істнавала правакацыя. Была гэта правакацыя адзінак. Вось, няхай мне даруяць паны з „Вызваленьня", усе гэтыя правакатары гнездзіліся ў вызваленскіх камітэтах. Як толькі „Вызваленьне" на „Крэсах Усходніх" збанкрутавала, то зараз-жа правакацыя перамяніла сьцяг: заместа напісу „Вызваленьне" напісала „П. П. С." і пачала гуртовую правакацыю. Але я не хачу вініць П. П. С., абвіняю толькі ўрадавыя органы, затое, што там вядуць правакацыю ўрадавыя агенты пад маскай П. П. С. Каб праканацца, што гэта так—я прачытаю адно да мяне пісанае пісьмо з Баранавіч: „Да Пана Пасла Рагулі ў Варшаве. Аткрытае пісьмо. У часе прабываньня Паваж. Пана Пасла ў Баранавічах 28.VI. 1926 г. я хацеў адбыць канфэрэнцыю, але ня мог найсці. Прашу ўвайсьці ў паразуменьне з п. сэнатарам Назарэўскім і супольна заняць становішча проціў прэзэса П. П. С. у Баранавічах Махая, бо гэты хуліган (warchoł) зьяўляецца конфідэнтам II аддзелу штабу ў Бярэсьце н/Бугам і бярэць 250 зл. пэнсыі за шпіёнскую работу ад Колежкі Уладыслава vel Любэльскага. Як доказ могуць быць квітанцыі надпісаныя Махаям у II аддзеле штабу ў Берасьці. Успомняны ёсьць правакатарам ад самага пачатку сваей дзейнасьці ў раёне Баранавіч. Махай бярэцца ад імя П.П.С. выступаць ува ўсялякіх справах, што дапускаць немагчыма. Можа быць доказам і той факт, што Махай праз свайго сябра Мастовіча прыняў 200 даляраў, каб атрымаць нейкія канцэсыі".

Гэты Махай зьяўляецца старшынёй прывятовага камітэту Польскай Партыі Сацыялістычнай і сябрам цэнтральнага выканаўчага камітэту (шум). Так, пане Квапінскі.

Вось, панове, як ідзе гэта правакацыя. Другі аддзел штабу Д. О. К. у Берасьці павінен быць інфармаваны аб настроях беларускага насяленьня; як-жа гэта зрабіць? А вось праз агентаў створаныя камітэты П. П. С. мусяць што тыдзень рабіць Махаю справаздачу. Такім чынам беларускі селянін прыносіць весткі аб настроях беларускага насяленьня, а каб атрымаць яшчэ больш грошаў, то яшчэ дабаўляе што-небудзь: глядзіце вось як у нас рэвалюцыйна, якое ў нас недавольства! Гэтак беларускі селянін сам ня ведае што робіць. Ня ведае, што ён ёсьць міма сваей волі сышчыкам, даносіць сам на сябе, а нават кажа больш, чым ёсьць запраўды.

Вось такі Махай высылае яго ў Берасьць і што-ж бачым? Селянін ідзе за чырвоным сьцягам. Да Махая ніхто, рэч зразумелая, ня прычэпіцца, а селяніна б'юць у пяты, ломяць жэбры і кідаюць у турму. А як ужо пасадзяць, то гавораць так, як гэта было 28 чэрвеня ў Баранавічах, дзе пэпээсы заяўлялі: „гэта-ж беларусы вінаваты, што далі вам асадніцтва, то-ж яны памаглі, а беларускія паслы ня хочуць умешывацца ў гэту справу; 1-га мая пасол Рагуля праз 3 гадзіны сядзеў у кабінэце старасты і піў водку, а вас садзяць у турмы". (Галасы: Ці гэта праўда?). Маршалак: Гэта ня мае зьвязку з паўнамоцтвамі. Пасол Рагуля: Сядзеў у старасты не Рагуля, а Бадзян пасол з П. П. С., а ці піў водку—я гэтага ня ведаю!

Ваявода Янушайціс, каб утрымаць сваё становішча прыдумае ўзноў нейкую паўстанчую работу. А менш-больш сьведамых беларусоў падзяліў ужо на 3 катэгорыі. Першая катэгорыя—гэта падазроныя ў пераходзе, або маючыя замысл перайсьці ўсходнюю граніцу. Другая катэгорыя — гэта элемэнт на палавіну незалежніцкі, элемэнт небяспечны. Гэтыя 2 катэгорыі знаходзяцца пад „апекай" мундуровай паліцыі. А трэцяя катэгорыя... (Голас: гэта паслы) можа і паслы; ня думаю каб паслы адгэтуль былі выключаны. (Голас: а да якой катэгорыі залічаецца Бальлін?) Да трэцяй катэгорыі належаць усе сьведамыя беларусы і яны знаходзяцца на „учете" дэфэнзывы, якая іх пільнуе і, разумеецца, чакае першага-лепшага мамэнту, каб пасадзіць іх у турму. (Голас: і ў пяты!) Ну, бяз пятак не абойдзіцца.

Вось такая палітыка зусім не адпавядае той шчырасьці, таму радыкалізму, аб якім казаў пан прэм'ер Бартэль. Каб п. прэм'ер быў праўдзівым радыкалам, то пайшоўбы на паразуменьне з тымі беларускімі групамі, якія за грошы не прадаюцца Затое ад п. прэм'ера п. Паўлюкевіч атрымоўвае якія 22000 зл. на арганізацыю зьезду. І што-ж п. Бартэль атрымаў? Аказалася тое, на прапазыцыю даверу да польскага ўраду і польскасьці на „Крэсах" атрымаў 22 галасы за прыняцьцем і 14 проціў. А больш як 150 галасоў маўчала. Гэтак за 22000 зл. урад п. прэм'ера Бартэля атрымаў 22 беларускія галасы. Такім чынам 1 голас каштаваў ураду 1000 зл.

Вось, панове, на палепшаньне адносін на „Усходніх Крэсах" ніякай надзеі няма. Як калісь казаў, так і цяпер скажу: мы беларусы, а беларус ніколі словам не паверыць. Толькі дзелу і па дзейнасьці ўраду п. Бартэля пазнаем гэты ўрад і тагды можам гаварыць аб даверы да яго. Што да абароны сваіх эканамічных і нацыянальных інтарэсаў, то мусім падумаць аб узмацненьні зьлітнага беларускага фронту, каб з усей сілы даць адпор польскай рэакцыі.

Падводзячы да аднаго ўсе, што было сказана, мушу ад імя Беларускага Клюбу заявіць, што будзім галасаваць проціў поўнамоцтваў для ўраду.

# З Радавай Беларусі.

### Беларускі дзяржаўны тэатр у Менску.

У восень г. г. у Менск з Масквы пры-язджае жыдоўская драматычная студыя, якая перафармавана ў самастойны тэатр БССР.

Такім чынам, з наступнага сэзону Менск узбагачаецца новым дзяржаўным тэатрам.

Існуючы цяпер будынак БДТ ня можа здаволіць працу нават аднэй трупы. Ён зусім ня мае дадатковай службовай плошчы, разьлічан толькі на 620 месц, пазбаўлены належнага памешканьня для майстэрняў, складаў і публікі (фойэ). Вось чаму зараз паўстала пытаньне аб пашырэньні гэтага адзінага тэатральнага будынку.

3-га мая распачала працу па гэтай справе спэцыяльная камісія пры Галоўлітасьвеце, якая знайшла, што ў сучасны момант БССР ня можа патраціць 2 мілёны рублёў на пабудову новага тэатру ў 1500 месц.

Думка аб магчымасьці прыстасаваць да гэтай мэты «Дом Культуры» або яшчэ які небудзь будынак, адпала сама сабой пасьля падрабязнага агляду спэцыяльнай камісіяй, зложанай з архітэктараў.

Вось чаму Дзяржпла і СНК. разгледзіўшы грунтоўна гэтае пытаньне, канчаткова зацьвердзілі праэкт такога пашырэньня будынку БДТ, які дасьць магчымасьць працаваць у ім абодвым дзяржаўным тэатрам (беларускаму і жыдоўскаму).

Работы па пашырэньню будынку распачнуцца ў гэтым сэзоне і закончацца ў 3 гады.

Дабудуюцца новыя памешканьні з абодвых бакоў тэатру і за яго сцэнай. Гэта дасьць магчымасьць пашырыць лік месц да 1.100.

Гэтыя работы будуць каштаваць 551 000 рублёў.

# Беларусы у Чэхаславакіі.

### З жыцьця Скарынінскага Т-ва ў Празе.

2-га ліпня г. г. адбыўся агульны справаздаўчы сход Беларускага (Крывіцкага) Культурнага Таварыства ім. Францішка Скарыны ў Празе Чэскай.

Трэба адзначыць, што памянутае вышэй Таварыства, зьяўляецца аднэй з найпаважнейшых арганізацыяў у Празе. Ня гледзячы на рожныя палітычныя перакананьні ў ім зышліся ўсе беларусы, каму дарага родная культура, яе разьвіцьцё і адраджэньне. Нямаш толькі камуністых.

Паўстала Скарынінскае Таварыства год таму назад, калі на праскім грунце, хвароба палітыканства перанеслася ад старэйшага грамадзянства на маладыя, здаровыя духам, арганізмы і пачала разьядаць іх. Таварыства, стаўшае на грунт апалітычнасьці, паставіўшы момэнт перадусім культурны, шмат разрэдзіла згушчанае паветра, надала бадзёрасьці ў працы і затрымала да пэўнай меры тое ненармальнае зьявішча „інтэлігэнцкага разгільдзяйства", якое пачало апаноўваць студэнства.

Без ўсялякіх матэр'альных сродкаў, ведама, шырака павясьці працу была немагчыма, а да таго затрымоўвалі працу і акадэмічныя заняткі. Аднак пэўная праца зроблена і вядзецца далей. У мінулым школьным годзе былі прачытаны гэткія рэфэраты ў рамках чыста акадэмічнага падыходу да справы: „Этнографічныя межы Беларусі"; „Беларуская мова і яе дыалекты"; „Кніга „Аль Кітаб" і „гісторыя беларускіх мусульманаў"; „Праблема беларускае нацыянальнае школы"; „Крывічы ці беларусы?; крытычны разгляд зроблены кнігі праф. Лапы „Западная Россия"; часопісі „Крывіч" ды інш.

У канцы мінулага году Таварыствам была ўрачыста адсьвяткавана чатырохсотгодзьдзе закладзін беларускага друку на Беларусі. Цяпер падчас летніх фэрыяў праэктуецца рад экскурсыяў па сярэдняй Чэхіі ў мэтах досьледаў географічных і гістарычных і азнаямленьня з чэскім бытам.

Значную ініцыятыву і долю працы выказаў у Т-ве сябра др. Я. Станкевіч, за што агульны сход выказаў яму сваё шчырае „дзякуй".

### Зьезды і выстаўка.

Як падае беларускае Прэс-Бюро ў Празе, месяцы чэрвень і ліпень г. г. былі асаблівымі ў Чэхаславакіі. 28-га чэрвеня адбыліся два міжнародныя зьезды. Зьезд бібліатэкараў усяго сьвету і зьезд культурных каталіцкіх працаўнікоў. На абодвых зьездах былі прадстаўлены і беларусы.

Выступленьне на зьездзе бібліатэкараў П. Крэчэўскага з рэфэратам „Гісторыя беларускай кнігі", дзе была высьвятлена гістарычная роля Польшчы і Расеі ў нішчэньні і паленьні беларускай кнігі і культуры амаль не на працягу 300 гадоў, надта не спадабалася прадстаўнікам Польшчы. Водгукі гэтага нездавальненьня можна бачыць у штодзённай польскай прэсе.

Таго-ж 28-га чэрвеня адбылося адчыненьне міжнароднай кніжнай выстаўкі. Беларуская кніга была прадстаўлена толькі кнігамі, вышаўшымі за межамі Б. С. С. Р., дыяграмамі росквіту, заняпаду і адраджэньня беларускай кнігі і газэты, графікай старажытных зацемак і мастацкай аздобы кніг з краявідамі.

Дыяграмы былі выкананы студэнтамі політэхнікі — Лаўскім, Каберцам і Васільевым. Графіку маляваў мастак Журэнкоў, а краявіды з беларускімі песьнямі—мастак Дзехцяроў.

Улаштаваў выстаўку Прэзыдыум Беларускай Рады ў Празе ў асобах: Захаркі, Вершыніна і Лаўскага, пры дапамозе сяброў Рады—Русака, Ільяшэвіча і Журэнкова.

Вельмі дрэннае ўражэньне зрабіла на беларускую калёнію ў Празе адсутнасьць на выстаўцы кніг, вышаўшых у Менску, тым барджджэй, што Менск кнігі выслаў, але мясцовыя зьменатычнікі загаду Менска ня выканалі і кніг на выстаўку не далі.

Павядзеньне беларускіх „паступоўцаў" становіцца яшчэ больш сумным, калі прыняць пад увагу, што Украінскаму Камітэту ў Празе былі высланы ўсе выданьні ня толькі з Кіева і Харкава, але нават і з Усурыйскага краю.

Аднак ня гледзячы на адсутнасьць кніг з Менску беларуская выстаўка, дзякуючы прысланым кнігам з Вільні і таму, што было на мейсцы, выглядала досыць прыгожа і выклікала вялікую зацікаўленасьць паміж кнігаведамі і публікай. Выстаўка прадаўжалася ад 28.VI. да 10.VII. г. г. уключна.

Апрача многалікай, рожнанацыянальнай публікі, звыш 200 асоб штодзённа, чэскіх міністраў і іншых афіцыяльных асоб, беларускі аддзел кніжнай выстаўкі наведаў і Прэзыдэнт Чэхаславацкай Рэспублікі прафэсар Т. Масарык.

### Студэнскі зьезд.

Ад 15 да 28 жнiўня ў Празе адбудзецца міжнародны студэнскі зьезд. На гэтым зьезьдзе будзе аканчальна зацьверджаны ўваход беларускага студэнскага саюзу ў міжнародную ассоцыяцыю студэнства.

### Аб „Замежнай Беларусі".

У зьвязку з міжнароднымі зьездамі і ўсесакольскім зьездам, друкарні не маглі выпаўніць у час заказу рэдакцыі «Замежнай Беларусі». Дзякуючы гэтаму зборнік «Замежная Беларусь» выйдзе безадкладна ў канцы ліпня.

# З Польшчы.

### Устава аб перамене Канстытуцыі.

28.VII. на паседжаньні сэнацкай канстытуцыйнай камісіі прыняты ў трэцім чытаньні праект уставы аб перамене Канстытуцыі. Праект гэты згодны з рэдакцыяй разгляданай пры другім чытаньні.

У аўторак 3-га жнiўня адбудзецца апошняе перад фэрыямі паседжаньне Сойму, які мае разглядаць папраўкі Сэнату аб перамене Канстытуцыі.

### Толькі гэтага не хапала.

У той час, як нашых безработных урад ахвотна высылае на цяжкія работы ў Францыю, адміністрацыйныя ўлады м. Лодзі паважна паднялі пытаньне аб надзяленьні лодзінскіх безработных... нашымі землямі. Нядаўна адбылася там нарада пад маршалкоўствам ваяводы і ўчасьцем прадстаўніка міністэрства зямляробства, якая прызнала, што трэба выкарыстаць «Усходнія Крэсы», дзе ёсьць вялікія маёнткі падпадаючыя пад закон аб парцэляцыі. Такім чынам заместа даўно чаканага падзелу гэтай зямлі між беларускім і ўкраінскім сялянствам, улады хочуць насяліць нам новую армію асаднікаў.

Большага зьдзеку над нашым беззямельным і малазямельным сялянствам ня прыдумаеш.

# З заграніцы.

### Камуністы сварацца.

Польскія газэты падаюць цэлыя вялікія стацьці аб раскрыцьці ў Маскве процiўурадавага замаху з боку камуністых. Усю апазыцыю мае злучаць ненавісьць да Сталіна. Мэтай замахоўцаў мела быць ня скіненьне ўраду, а выдаленьне сілай кіраўнікоў Палітбюро. У Крэмлі пануе трывожны настрой.

### ССРР. і Ліга Народаў.

У Ангельскіх палітычных колах пры гутарках аб разаружэньні, загаварылі аб патрэбе ўваходу ў склад Лігі Народаў і ССРР. Трэба спадзявацца, што Радавая Расея не захоча зьвязываць сябе Лігай Народаў.

### Новы францускі ўрад.

Пасьля правалу ўраду сацыяліста Эріо, значнай большасьцяй галасоў выбраны вядомы францускі палітык б. прэзыдэнт рэспублікі Пуанкарэ. Такім чынам урад Францыі набірае ізноў афарбоўку правіцовую.

### Водгукі лістападавага працэсу.

У Латвію ўцёк адзін з удзельнікаў лістападаўскага працэсу Кастусь Сьцепура. Латвійскі ўрад хоча выдаць яго Саветам назад. Ня можна дапусьціць, каб Латвія пазбаўляла беларусаў права азылю ў сваіх межах.

### Зьезд нацыянальных меншасьцяў.

27—28 жніўня ў Жэнэве адбудзецца зьезд нацыянальных меншасьцяў эўрапэйскіх дзяржаў. Беларускія меншасьці Польшчы, Літвы і Латвіі мусяць мець там абавязкова свайго дэлегата.

### VIII усесакольскі зьлёт у Празе.

2-га чэрвеня пачаліся вялікія урачыстасьці зьлёту. Для гэтага зьлёту на аткрытым паветры быў выбудаваны па прыкладу старадаўняй Грэцыі вялізарны часовы стадіон-тэатр разьмерам 660 тысяч квадр. мэтраў, які ўмяшчаў у сабе, апрача 30.000 сакалоў сцэны да 200.000 гледзячоў.

На зьлёт, апрача заграничных прадстаўнікоў сакольства, зьехалась — 50.816 сакалоў (арганізацыя, апрача дзяцей і школьнікаў, мае 600.000 сяброў).

На зьлёце былі афіцыяльныя прадстаўнікі і дэлегаты амаль ня ўсіх дзяржаў, апрача нямецкага, італьянскага, баўгарскага і польскага.

Урачыстасьць адбывалася ўсе дні і закончылася вялікай дэманстрацыяй 6-га ліпня на чэсьць Гуса. У дэманстрацыі, пры праходзе па Празе ўдзельнічала 50.000 сакалоў. Публікі налічаюць больш паўміліёну. Такога выяўленьня і шырыні народнай волі амаль ня бачыў сьвет. У гэтай дэманстрацыі кожны мог бачыць вялізарную моц чехаславацкага народу і яго адданасьць і любоў да сваей нацыі і дзяржавы.

Стройная, арганізаваная, добра выхаваная маса людзей, з кветкамі і ліповымі галінкамі ў руках, выяўляла сабой у тысячу разоў больш сілы, як усякая, азброеная да зубоў вайсковая арганізацыя.

Гэта быў запраўдны трыумф чэхаславацкай нацыі, сіла якога ляжыць ў нацыянальнай сьвядомасьці і арганізацыі.

Чэхаславацкае сакольства стаіць на правідловым шляху аб'яднаньня славянства, трэба толькі каб у гэты саюз уліліся ўсе славянскія нацыі.

Адчувалася адсутнасьць на зьлёце польскага сакольства, якое рэлігійныя матывы паставіла вышэй нацыянальных і ўсеславянскіх. Гэта абмылка можа быць шкодна толькі палякам.

Беларускае сакольства, за недастаткам нацыянальных вопратак у агульным выступленьні ўдзелу ня прыймала, але ўсё-ж такі афіцыяльна было прадстаўлена на зьлёце.

Пажадана было, каб ідэя сакольства нашла водгук у нас на бацькаўшчыне і выхоўвала моладзь фізычна і маральна ў духу Тырша.

---

**Веча у Жодзішках 1 жніуня**

на якім меліся выступіць паслы: Рагуля, кс. А. Станкевіч і сэнатар Багдановіч, НЕ АДБУДЗЕЦЦА з прычыны забароны Віленскага Ваяводы.

